# У абарону суверэнітэта і дэмакратыі

*15 мая ў Мінску адбыўся II Нацыянальны кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі "У абарону суверэнітэта і дэмакратыі". Удзел у рабоце кангрэса прынялі больш за 280 чалавек, якія прадстаўляюць 3 партыі і рухі. Гасцямі форума былі палітыкі з Польшчы, Украіны, а таксама дзеячы міжнародных арганізацый.*

*Па выніках работы Кангрэса былі прыняты заява "У абарону суверэнітэта і дэмакратыі" і рэзалюцыя "Аб выхадзе з канстытуцыйнага крызіса ў Рэспубліцы Беларусь".*

*Прапануем выступы на кангрэсе прадстаўнікоў дзвюх найбольш уплывовых у краіне дэмакратычных партый.*



**С.А.Богданкевич, Председатель Объединенной Гражданской партии, депутат Верховного Совета Республики Беларусь**

Дамы и господа!

С благословения российских "демократов" Черномырдина, Строева, Селезнева в Беларуси был сфальсифицирован конституционный референдум, осуществлен государственный переворот и установлен диктаторский режим. Беларусь оказалась на обочине Европы. Лукашенковская Беларусь идет по пути изгоев, исключенных из мирового сообщества, "выбрала" сообщество Ирака, Северной Кореи, Кубы и некоторых других стран, где правят режимы мракобесия и произвола. В Мировой день свободы прессы Комитет защиты журналистов опубликовал список 10 главных врагов свободы информации в мире. В этом списке на шестом месте в окружении самых одиозных диктаторов мира находится Александр Лукашенко.

В такой ситуации диктаторский режим ищет пути своего спасения от неизбежного экономического краха и легализации незаконно сформированных им структур власти в очередной эксплуатации мертворожденной идеи восстановления СССР, на этот раз в форме завуалированного аншлюса Беларуси с Российской Федерацией. Объединенная гражданская партия считает недопустимым в политических целях играть судьбой белорусского народа, его суверенным правом на независимое государство. Союз "медведя" и "зайчика" на равноправных условиях невозможен, сколько бы раз не было упомянуто слово "равенство", ввиду несопоставимости параметров этих государств. Неизбежным следствием такого союза станет превращение Беларуси в окраинную провинцию Москвы, окончательная утрата своей самобытности, своего права на суверенное государство. Только наличием у правящего режима комплекса личной неполноценности можно объяснить его стремление вступить в союз со страной, раздираемой междуусобицами, мафиозными разборками, находящейся в состоянии государственного распада, в глубочайшем экономическом кризисе, из которого не видно выхода.

Объединенная гражданская партия заявляет, что любые межгосударственные договоры, заключенные в условиях созданной в Беларуси атмосферы запуганности и всесилия режима, судебного преследования законно избранных депутатов Верховного Совета, распопагающих правом на неприкосновенность, в условиях преследования прессы, избиения мирных демонстрантов и "зачисток" прилегающих к митингам территорий, и ратифицированные нелегитимным марионеточным белорусским парламентом, не могут считаться законными, не будут признаны ни собственным народом, когда он восстановит свое право на свободный выбор, ни международным сообществом. Рассмотрение в нынешних условиях вопроса о Союзе с Российской Федерацией бессмысленно.

Выступая в защиту таких бесспорных общенациональных ценностей, как свобода, конституционная законность, суверенитет, независимость, государственность, за которые лучшие сыны и дочери народов не жалеют ни собственной крови, ни собственных жизней, Объединенная гражданская партия не приемлет изоляционизма. Экономика Беларуси нуждается в интеграции в мировую экономику, ей полезна самое тесное экономическое сотрудничество с экономиками России, Украины, всеми соседними странами. Ей однозначно противопоказана закрытость, замкнутость, в том числе и на общем рынке с РФ. Главная экономическая проблема Беларуси — отсутствие инвестиций, новейших технологий и новейшей техники. Все это находится не во Вьетнаме и Китае, где все еще принимают Лукашенко, и не в России, которая не менее Беларуси нуждается в этих же ресурсах, а на Западе.

Сегодня для нас главной политической проблемой и задачей является восстановление в стране народовластия, восстановление права народа на полную и достоверную информацию. Лукашенко контролирует парламент, суды, прокуратуру, телевидение и радио. Сегодня в стране на улицах больше стражей порядка, чем это было во времена гитлеровской оккупации. На каждые 80 белорусов, включая младенцев, приходится один страж порядка, в то время как в Германии — на 370, в Дании — на 500. В стране развернута пропагандистская кампания против всех известных общественых деятелей — противников режима, произвола и беззакония, против всех влиятельных партий, негосударственных общественных организаций, фондов. Ежедневно на нашу общественность обрушиваются потоки лжи и грязи о "кознях врагов народа", о жалкой кучке предателей, ревущихся к власти, о страстном желании белорусов отказаться от суверенитета и государственности во имя присоединения к России в качестве ее западной провинции.

Наряду с восстановлением права народа на объективную информацию мы будем бороться за восстановление Конституции 1994 г. и выход из нынешнего кризиса на основе подлинного волеизъявления народа.

**"Жыве Беларусь!"**



**Л.П.Баршчэўскі, выконваючы абавязкі Старшыні Беларускага Народнага Фронту, кандыдат філалагічных навук**

Вельмішаноўнае спадарства!

Ад імя кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" вітаю ўсіх удзельнікаў Кангрэса. Перадаю прывітанні таксама ад Старшыні БНФ спадара Зянона Пазьняка, з якім я ўчора меў чарговую сустрэчу. Прыйдзе час, і людзі будуць ведаць, якую каласальную працу зрабіў Зянон Пазьняк за межамі Беларусі дзеля ўмацавання незалежнасці Беларусі, дзеля прыцягнення ўвагі сусветнай супольнасці да нашых праблемаў.

Мы ў Народным Фронце з задавальненнем разглядаем тое, што сказанае Народным Фронтам 5-6 год таму пра памкненні імперскіх сілаў у Расіі, пра неабходнасць абароны незалежнасці Бацькаўшчыны — як найвышэйшай каштоўнасці ў сённяшніх умовах — сёння паўтараюць тыя палітыкі і публіцысты, якія тады гаварылі зусім інакш або проста крытыкавалі Народны Фронт за яго непахісную незалежніцкую пазіцыю.

Сёння мы маем унікальную палітычную сітуацыю, калі дыктатарскі рэжым імкнецца загнаць у падполле адзіны легітымны заканадаўчы орган Рэспублікі Беларусь - яго Вярхоўны Савет. Зразумела, што парламенцкая апазіцыя ў Вярхоўным Савеце XIII скліканні, як такая, скончыла сваё існаванне ў лістападзе мінулага года, і сёння дзейнасць Вярхоўнага Савета шмат у чым сімвалічная. Цяжар палітычнай барацьбы за дэмакратыю, рынкавую эканоміку і, найперш, за незалежную будучыню Беларусі перамясціўся на вуліцы. Трэба схіліць галаву перад нашай гераічнай моладдзю — гэта яна ўзяла на сябе галоўны ўдар рэпрэсій кіруючага рэжыму ў гэтым змаганні. Але пры ўсім гэтым і надалей важным застаецца само існаванне Вярхоўнага Савета XIII склікання, а яго старшыня, спадар Сямён Шарэцкі, сёння ёсць такая дзяржаўная асоба, якая мае права ўзначаліць дзяржаву пасля падзення ўзурпатарскага рэжыму — прынамсі, прызначыць з дапамогай усяго складу парламента новыя выбары.

Трэба, вядома, разумець, што любыя дэмакратычныя выбары ў нашай краіне магчымыя толькі пасля адхілення дыктатарскага рэжыму, які пануе сёння. Таму ў рэзалюцыі Кангрэса абавязкова трэба перад словамі "узнаўленне дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання як адзінага легітымнага заканадаўчага органа" запісаць: "пасля адхілення ад улады ўзурпатарскага рэжыму". Да тэксту Заявы істотных пярэчанняў або дадаткаў у нас няма. Мы вітаем любыя дакументы, у якіх падкрэсліваецца першачарговая вартасць незалежнасці нашай Бацькаўшчыны.

**Жыве незалежная, еўрапейская, свабодная Беларусь!**

# За преступления против собственной страны "сроков давности" не бывает

На состоявшемся 28 мая 1997 года Собрании депутатов Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва обсуждался проект Закона "О неприменении сроков давности за совершение должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан". С соответствующим обоснованием проекта Закона выступил председатель Комиссии по законодательству и государственному строительству при Президиуме Верховного Совета Республики Беларусь В.Н.Савичев. Депутаты предложили рекомендовать данный законопроект для широкого обсуждения. Ниже мы публикует проект Закона.

Свои отклики просим направлять по адресу:

220098, г. Минск, а/я 181.

## Закон Республики Беларусь

### *О неприменении сроков давности за совершение должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан*

Верховный Совет Республики Беларусь,

исходя из того, что права человека являются высшей ценностью общества и государства,

принимая во внимание, что государство должно гарантировать права и свободы граждан, закрепленные в Конституции и международно-правовых актах,

руководствуясь принципом неотвратимости наказания за совершенное преступление,

и учитывая международную практику неприменения сроков давности в отношении лиц, совершивших преступления против человечества,

принимает настоящий Закон.

**Статья 1.**

Настоящим Законом снимаются временные ограничения для привлечения к уголовной ответственности должностных лиц, которые совершили преступления, нарушающие права и свободы граждан, начиная с 20 июля 1994 года.

**Статья 2.**

Деяния, совершенные судьями, работниками органов внутренних дел, прокуратуры, Комитета государственной безопасности, Совета безопасности, аппарата Администрации Президента Республики Беларусь, а также формирований, непосредственно подчиненных Президенту Республики Беларусь, членами Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов, депутатами Верховного Совета Республики Беларусь, вошедшими в состав Национального собрания Республики Беларусь, руководителями местных органов исполнительной власти, другими должностными лицами, подпадающие под признаки статей 130, 131, 131-1, 131-2, 132, 133, 134, 135, 166, 166-1, 167, 167-1, 168, 172, 172-1, 173, 174, 175 Уголовного кодекса Республики Беларусь и причинившие существенный вред охраняемым законом правам и интересам граждан, не имеют сроков давности.

**Статья 3.**

Вопрос о привлечении к уголовной ответственности перечисленных в статье 2 настоящего Закона должностных лиц вправе ставить граждане, пострадавшие от противоправных действий должностных лиц, общественные объединения, политические партии, депутаты Верховного Совета Республики Беларусь или депутаты местных Советов.

Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь, вошедшие в состав Национального собрания Республики Беларусь, привлекаются к уголовной ответственности в порядке, определенном статьей 37 Закона "О статусе депутата Верховного Совета Республики Беларусь" и статьей 106 Закона "О Верховном Совете Республики Беларусь".

**Статья 4.**

Заявления и сообщения о совершении должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан, направляются в органы прокуратуры по месту работы или проживания этих должностных лиц.

В своих заявлениях граждан вправе требовать материального возмещения морального вреда, причиненного им незаконными действиями должностных лиц.

Органы прокуратуры обязаны в установленном законом порядке рассмотреть поступившие заявления и сообщения.

**Статья 5.**

Предварительное следствие по делам данной категории производится по общим правилам уголовного судопроизводства.

**Статья 6.**

Судебное разбирательство дел о привлечении к ответственности должностных лиц, нарушающих права и свободы граждан, производится гласно. В судебном заседании имеют право принимать участие представители средств массовой информации, политических партий, общественных объединений, трудовых коллективов, депутаты Верховного Совета Республики Беларусь.

В судебном заседании, по общему правилу принимает участие государственный обвинитель.

Трудовые коллективы вправе направлять для участия в судебном заседании общественного обвинителя или общественного защитника.

Подсудимый имеет все права, предусмотренные уголовно-процессуальным законодательством, в том числе право на участие в деле защитника.

Рассмотрение дел данной категории производится районными (городскими) судами в составе трех профессиональных судей. В случае, если в суде отсутствует необходимое количество судей, приглашаются судьи из других районных (городских) судов.

**Статья 7.**

При вынесении приговора в отношении лиц, признанных виновными в совершении перечисленных в статье 2 Закона преступлений, суд вправе назначить в качестве основного или дополнительного наказания в порядке статьи 29 Уголовного кодекса Республики Беларусь лишение права занимать должности в государственном аппарате на срок от одного года до пяти лет.

При наличии заявления о материальном возмещении морального вреда суд обязан вынести решение по этому вопросу.

**Статья 8.**

Руководящий орган республиканского общественного объединения или политической партии, группа депутатов Верховного Совета Республики Беларусь в количестве не менее одной трети от общего числа избранных депутатов Верховного Совета, а также общее собрание трудового коллектива государственного предприятия, организации, учреждения, вправе ходатайствовать об освобождении должностного лица, совершившего преступление, от уголовной ответственности.

Если будет признано, что ко времени рассмотрения дела в суде вследствие изменения обстановки совершенное должностным лицом деяние потеряло характер общественно опасного или это лицо перестало быть общественно опасным, суд выносит решение об освобождении данного должностного лица от уголовной ответственности и прекращает производство по делу.

При принятии решения суд принимает во внимание случаи, когда должностное лицо действовало под принуждением, выполняя приказ или решение вышестоящего органа государственного управления.

**Статья 9.**

Обжалование и опротестование решения суда производится в порядке, предусмотренном уголовно-процессуальным законодательством.

**Статья 10.**

Настоящий Закон является составной частью и дополнением действующего уголовного и уголовно-процессуального законодательства.

# ЯК ХАРЧАВАЎСЯ А.МЕНШЫКАЎ У МАГІЛЁВЕ?

**(Працяг гістарычнага агляду І.Пушкіна)**

На пачатку 1708 года Карл XII распачаў генеральны рух на ўсход. Расійскае войска, адступаючы, каціласе ў тым жа кірунку. Сярод яго была і кавалерыя генерал-паручніка А.Меншыкава. Вось як апісваецца ягонае з'яўленне ў горадзе ў Магілёўскай хроніцы Сурты і Трубніцкага:

"...Месяца сакавіка 14 дня Аляксандр Данілавіч Менчык, маскоўскі князь і першы царскі дарадца, з вельмі пышнай кавалькадай і помпай з многімі вайсковымі аксэсуарамі з немалай вайсковай світай уехаў у Магілёўскі замак. Шасціконных экіпажаў ішло некалькі дзесяткаў, на вярблюдах і мулах праводжаны ўюкі, вакол рабы. І так заняў сабе і свайму двару пакоі ў замку, і іншыя афіцэры сталі па багатых і сярэдніх дамах.

Тады Магістрат, ведаючы і чуючы, што гэта чалавек ліхі, чэрствы масквіцін, клапоцячыся, каб быў міласцівы, пайшлі да яго ў замак з хлебам, з соллю, з прыправамі, віном і цукрам. Яму ж пры іншых паднашэннях завезлі бочку венгерскага віна і падаравалі апраўлены ў серабро крыштальны куфэрак гданьскай работы, які каштаваў тысячу злотых.

Назаўтра сакратар Менчыка, прыбыўшы ў ратушу да ўсяго магістрата, загадаў, каб тут жа і штодзённа выдаваліся з горада ўсе харчы ад самай вялікай і аж да найменшай рэчы. Таму горад сціснуты адусюль бедамі, мусіў, што толькі было з харчоў, выдаваць і карміць князя і яго войска. І як толькі выйшаў загад, давана фураж, бочкамі французскае і венгерскае віно, мёд і піва, вараныя буракі, капуста, соль таксама, бочкамі штодзённа жывога вала, некалькі дзесяткаў баранаў, гусі і куры, даваны чародамі, хлеба сітнага і свежага па боханаў сто, гарэлку звычайную і сівуху мернікамі, мыла на хусткі штотыдзень па некалькі дзесяткаў фунтаў, рыбы марожанай вазамі, а жывой — колькі можна было дастаць. А калі б не дана чаго, тады адразу браны магістрат пад варту і караны. Вэнджанай рыбы давана штукамі, масла пастаянна кадушкамі, баравікі тысячамі, розныя прыправы, разынкі, міндаль, дзесяткамі фунтаў, крокусы, кветкі, мускатавыя ношамі штодзённа, жалеза на каванне каней і экіпажаў пудамі, цыбулю, пятрушку і іншую гародніну ношамі, перац, імбір і іншыя вастрэйшыя прыправы фунтамі, цытрыны і алівы скрынямі, муку пшанічную, як найлепшую, меркамі, цукар штодзённа галовамі, асятрыну цэлымі і пасечанымі асятрамі, таксама і саміну, па некалькі дзесяткаў фунтаў, выпечаныя ў горадзе пірагі штодзённа, у гэты час, нават не зважаючы на дні святых, штодзённа давана з рынка некалькі дзесяткаў грачаных аладак. Таксама давана і харчавана з горада краўцоў, шорнікаў, якія шылі для двара сукні, рабілі шоры, і за работу ім з горада плочана. І юфты, і шкуры для абіўкі экіпажаў, калёсаў і шораў куплена... мусіш ты са слезамі дзівіцца, як мог горад Магілёў вынесці такія кары і іншае на гэта падобнае, калі гэты праклятьі чарвяк са сваім дваром стоячы ў замку ад сакавіка 14 да мая 19 тачыў і аб'ядаў горад, і якому на харч і на паднашэнні страчана вялікая сума".

За гэтае Меншыкаў замест удзячнасці надумаў іншае:

"Гэты князь Менчык, будучы ў Магілёве, меў такі намер і часта думаў якім бы чынам адпомсціцца гораду Магілёву за парубанне перад гэтым у Магілёве масквы і якім бы чынам, каб высекчы горад пад корань, нацкаваць на гэта цара ягамосць".



*По гэтаму фотапартрэту можна напісаць гісторыю і гэтай жанчыны, і ўсяго яе пакалення, і ўсёй нашай краіны. У гісторыі гэтай будзе больш страт і пакутаў, чым радасці і шчасця. Але недзе ў самай глыбіні вачэй яшчэ цепліцца і надзея. Не падмануць бы нам Надзею і на гэты раз. Гэта глядзіць на нас сама Беларусь...*

## Чаго я хачу...

Я хачу, каб бел-чырвона-белы
Развяваўся
над дзяржавай сцяг,
А не гэты багнава-замшэлы
Закрываў прывольны
наш абсяг.

Я хачу, каб ў свеце паважалі
Беларусь свабодную маю,
Каб з усімі шчыра сябравалі,
Годнасць не губляючы сваю.

Я хачу, каб не было прымусу,
Каб АМАП мяне абараняў.
І за тое, што пайшоў на мітынг,
Ён мяне дубінкай не збіваў.

Я хачу, каб суддзі не гублялі
Сорам і уласны твар,
Каб яны заказы не прымалі,
Нават калі кажа "гаспадар".

Я хачу, каб вольна выбіралі
Людзі дэпутатаў у Савет.
Да суда ў турме
каб не трымалі
Нават правінўшыхся кабет.

Я хачу, каб слова прэзідэнта
Не зрывалась з вуснаў абы як,
Каб пачуў ён голас апанента,
А не тых, хто цмокае
ў кумпяк.

Я хачу, каб ў людзях
была згода,
Каб змаглі урэшце зразумець:
Будучыня будзе у народа,
Толькі трэба гэтага хацець.

**Фелікс Шкірманкоў,**
**Слаўгарад**
12 чэрвеня 1997 г.

**ЮРАСЬ ПІВУНОЎ**

## АБРАЗКІ

### МАЯ БЕЛАРУСЬ

...Што ёсьць Беларусь? Кожнаму беларусу яна ўяўяецца па-свойму. Для мяне Беларусь пачынаецца зь вёскі, дзе нарадзілася мая маці, дзе жыве да гэтага часу бабуля, дзе ў дзяцінстве я бавіў час летніх вакацыяў.

Клічаўшчына... Край хваёвых лясоў з прымежкамі бярозавых гаёў, паўнюткіх баравікамі, махавікамі ды лісічкамі пад ялінкамі, балоцістых нізінаў з гронкамі палымяных журавінаў на зялёных купінах... Край прырэчных лугоў, дзе паважна ступаюць па мяккім дзірванне квітнеючых красак белыя птушкі з чорнай аздобаю на крылах. Гэта буслы — белыя рыцары беларускай зямлі.

Гарэза-вятрыска сваволіць у кронах бярозак, палахлівы асіньнік шамаціць пад ягонымі цёплымі павевамі. Бяжыць у далячынь пяшчотная й паскавая рэчка Даўжанка, буяюць зарасьцем аеру і алешкі берагі, віруе-гуляе на плёсах у рачной траве рыба...

Як устанеш ураньні — толькі сонца шчэ зьбіраецца ўвысьці і туман над ракою плыве, нібы малако, — ну, а хлопцы, зямлі беларускай сыночкі, ужо косы мянташаць — кладзецца трава пад лязом.

Беларусь! Пачынаесься ты з Закупленьня, з гэтай вёскі маленькай, мо будзе тут сотня двароў...

Беларусь! Для мяне ты купальская песьня і рыпеньне вясковых калодзежных жураўлёў...

Ды ці можна хіба прыгажосьць усю выказаць гэтую і пачуцьці, што поўняць душу зноў і зноў?!

Беларусь! Для мяне ты сьвятая зямліца! Нібы родная маці ты сьвецісься ласкай сваёй.

### ТРАВЕНЬСКІ ДОЖДЖ

У пакоі становіцца цёмна, нібы зьмярканьнем, ад вялікай цёмнай хмары, і хутка па падваконьні бомкаюць буйныя кроплі дажджу, пырскі ад якіх трапляюць на шыбу, пакідаючы на ёй сьлед свайго кароткага жыцьця — жыцьця ад хмары-матулі да зямлі-красуні. Срэбна-прамяністыя дажджынкі скачуць па даху, шапацяць у лістоце дрэў, сьмела ныраючы ў шматлікія азяркі-калюжкі, якія сабраліся ад гэтага шчодрага й цёплага дажджу.

Усё жывое на Зямлі радуецца гэтаму травеньскаму навальнічнаму дожджыку: бярозкі-прыгажуні і арабінкі-сястрычкі, стройныя клёны і пяшчотныя жаноцкія вербачкі-дзевачкі, і нават стары, магутны волат-дуб на ўзгорку, і той нібы маладзее і выпроствае свае пакручастыя галіны зь лісточкамі-дубочкамі насустрач празрыстым, звонкім дажджынкам-дзяўчынкам.

Зямля ўдзячна ўбірае жыватворную вадзіцу, каб потым спаўна аддаць яе ўжо сваімі гаючымі сокамі ўсяму жывому.

## ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Юбка. 8. Заботливость. 9. Ворчун, бормотун. 11. Груздь. 12. Скрежет. 15. Обносок. 18. Прикоть. 19. Роскошь. 20. Мешковина. 21. Условие. 24. Стекловар. 26. Духота. 27. Мясоед. 31. Льстец. 33. Личность. 34. Красота. 35. Ладошка 36. Основание.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пружина. 2. Издевательство. 3. Тропа. 4. Ученик. 5. Благо. 6. Перочинный нож. 10. Кошачья лапка (бот.). 13. Пряха. 14. Сомнение. 16. Корыто. 17. Взыскание. 22. Коптилка. 23. Побег, росток. 25. Прелесть. 28. Часть. 29. Фонарь. 30. Корм для пошадей. 32. Решетка.

## Усё вернецца...

Год назад па сэрцах тысяч беларусаў балюча ўдарыла паведамленне: у Мінску група фашыстоўскіх малойчыкаў сарвала аўтарскі вечар Булата Акуджавы. Паэта, барда, празаіка, франтавіка.

Тады ж падумалася, што гэта натуральна для лукашэнкаўскай краіны, дзе ўлада ўмее толькі адно: ненавідзець. Паэты сярод аб'ектаў гэтай нянавісці — адны з першых. Толькі што адседзеў дзесяць месяцаў турмы і карцэраў Славамір Адамовіч.

Паэтаў у неразвітых, таталітарных, дзікіх, дыктатарскіх краінах заўсёды забіваюць, садзяць, ссылаюць, забараняюць. За тое, што жыццё ідзе і ў рэшце рэшт заўсёды аказваецца такім, як тое адчуваюць, тлумачаць і прадбачаць паэты.

Аднекуль гэта ведаюць уладары, бездары і наогул несвабодныя людзі. Усе разам яны не могуць дараваць паэтам іх праваты. Бо самі кіруюцца ў жыцці адной катэгорыяй (на жаль, і мы нярэдка гэтаму паддаёмся) —так званай злабадзённасцю. Таму і "не ведаем, что творим". А паэты жывуць тым, што вечна: любоўю, дабрынёй, шчырасцю, розумам.

Як ні крыўдна, мы больш слухаем палітыкаў, чым паэтаў. І пакуль так, будзем памыляцца, усё далей адыходзіць ад дабрыні і праўды.

І ўсё ж, не мы, дык нашыя дзеці вернуцца туды і пачнуць адтуль, дзе мы не даслухалі паэта, або не паверылі яму.

Са стратай Булата Акуджавы падумалася аб тым, што нацыя, дзе ёсць паэты, не можа не знайсці волі і шчасця. Гэты шлях можа быць доўгім і пакутным, як у нас. Але абавязкова пераможным. Ненавіснікі паэтаў пацерпяць немінучую паразу.

А нацыя паэтаў — за беларускай гэтае азначэнне прызнана ў свеце —абавязкова выйдзе да святла і праўды. Бо мы ідзём не ў адзіноце. З намі на гэтым шляху не толькі Максім Багдановіч і Янка Купала, Славамір Адамовіч і Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і Ларыса Генiюш. Але і Осіп Мандэльштам, і Уладзімір Высоцкі, і Аляксандр Галіч, і Іосіф Бродскі... і, канешне, Булат Акуджава з ягоным "святым воинством - совестью, благородством и достоинством".

**Генадзь Суднік.**


Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..





АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 12. Тыраж 2100 асобнікаў.